**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№22(634)**
**31 траўня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

## Бардаўскі фэст у Германавічах

**У мястэчку Германавічы (Шаркоўшчынскі раён) 26 траўня адбыўся бардаўскі фэст.**

На запрашэнне грамадскай дзеячкі Ады Райчонак у Германавічы прыехалі Андрусь Такінданг, Зміцер Бартосік, Аляксей Жбанаў, Раман Абрамчук, Раман Яраш, Цімох Авілін.

Штораз геаграфія фэсту большае. Гэтым разам завітала досыць вялікая група з Лепеля і Лепельскага раёна.

На здымку група самадзейных артыстаў і гасцей фэсту з Лепеля і Лепельскага раёна, сярод якіх гурт старадаўняй музыкі з вёскі Вялікі Поўсвіж у складзе: Васіль Шкіндзер – дуда, Вольга Зарэцкая – скрыпка, Уладзімір Крыцкі – барабан.

***Фота Уладзіміра Скрабатуна.***



*Працяг тэмы на стар. 4.*



## Расце годная змена!

**І.У. Федаровіч,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

**Паважаныя жыхары нашага горада і раёна! Даводзім да вашага ведама прыемную навіну пра тое, што на 40-м юбілейным абласны злёце-конкурсе атрадаў ЮІР (юных інспектараў руху), які праводзіўся 10, 11, 12 траўня ў г. Полацку каманда нашага раёна ДУА «Дзеркаўшчынская сярэдняя школа Глыбоцкага раёна», Атрад ЮІР «Інспектар» заняла трэцяе месца.**

Наша каманда была лепшай у афармленні насценгазеты на тэматыку бяспечных паводзін на дарогах, другое месца заняла па тэарэтычных ведах Правіл дарожнага руху. Такога выніку наша каманда дамаглася дзякуючы высілкам усёй каманды і асабліва іх педагогаў Гвоздзікавай Наталлі Іванаўны і Барыла Наталлі Васільеўны, а таксама дырэктара школы Анашкевіча Уладзіміра Іосіфавіча. Такога выніку каманда нашага раёна дамаглася ўпершыню за апошніх 15 гадоў. Нашы дзеці прывезлі дахаты тры граматы, падзяку педагагічнаму саставу школы ад кіраўніцтва ўпраўлення Дзяржаўтаінспекцыі УУС Віцебскага аблвыканкама за работу, якая праводзіцца ў вобласці бяспекі дарожнага руху, а таксама медалі за трэцяе месца.

21 траўня 2012 года на ўрачыстай лінейцы каманду юных інспектараў Дзеркаўшчынскай школы, прызёраў абласнога конкурсу павіншавалі: начальнік аддзела Дзяржаўтаінспекцыі Глыбоцкага РАУС падпалкоўнік міліцыі Федаровіч Ігар Уладзіміравіч і першы сакратар Беларускага Рэспубліканскага Саюза моладзі Глыбоцкага райвыканкама Кашко Алеся Казіміраўна, якія за старанне, узняцце іміджу нашага раёна, імкненне да перамогі ўзнагародзілі дзяцей каштоўнымі падарункамі. Прыемная атмасфера, якая панавала ў зале, вянчалася працяглымі апладысментамі ў адрас прызёраў і радаснымі ўсмешкамі на тварах конкурсантаў. Начальнік ДАІ павіншаваў вучняў школы з надыходзячым канчаткам навучальнага года, пажадаў старшакласнікам паспяхова здаць іспыты, выпускнікам ажыццяўлення іх мары аб паступленні ў абраныя імі навучальныя ўстановы, заастрыў увагу вучняў малодшых класаў на неабходнасці выканання правіл паводзінаў на вуліцы, а таксама пажадаў добра адпачыць і прыемна правесці летнія вакацыі.

**Атрад ЮІР :**

1. Іканові Тацяна – 5 клас, Калмычэўская Надзея –5 клас, Узлоўскі Алег – 6 клас, Януковіч Андрэй – 6 клас, Навіцкі Зміцер –7 клас, Уткін Валера –7 клас, Іканові Валянціна – 8 клас, Ярмаковіч Аляксандр – 8 клас, Вышадка Андрэй.

Браслаўскі раён

# Суседзі – не чужыя людзі

■ Станіслаў Раманчук

**Спрошчаны парадак малога прыгранічнага руху ў суседнюю Латвію парадаваў многіх жыхароў Браслаўскага раёна.**

Праўда, пакуль латышы аказаліся больш актыўнымі і часцей беларусаў карыстаюцца магчымасцямі, якія прадастаўляе новы рэжым перасячэння граніц. Па дадзеных пагранведамстваў абедзвюх дзяржаў, толькі ў красавіку такім чынам па атрыманых пропусках на пунктах пропуску было прапушчана болей 5 тысяч чалавек. З іх меней тысячы нашых суайчыннікаў наведалі ў асноўным сваіх родных, пражываючых вакол і ў самім Даўгаўпілсе, Краславе і Дагдзе. А вось колькасць латышоў, якія праведалі азёрны край вясной у спрошчаным парадку, павялічылася на чвэрць у параўнанні з мінулым годам. З іх болей 70 % выпадкаў людзьмі кіруюць жаданні пабачыцца з роднымі. А ў прыгранічны Плюскі сельсавет з суседняй Латвіі суседзі з ЕС прыязджаюць, на жаль, у асноўным, каб праведаць месцы вечнага спачыну сваіх блізкіх. Напярэдадні велікодных святаў іх было найбольш. Не сакрэт, што латышы па ўзроўні матэрыяльнага дабрабыту жывуць крыху лепей і яны актыўна дапамаглі мясцоваму сельсавету ў зборы сродкаў на добраўпарадкаванне могілак. За кароткі тэрмін было сабрана тут на гэтыя мэты болей 6 млн. рублёў сродкаў самаабкладання, што болей, чым за ўвесь мінулы год. Але з цягам часу да такіх узаемных паездак болей далучацца і беларусаў. З Плюскага сельсавета такое пажаданне выказалі 95 мясцовых жыхароў, яны будуць мець пропускі для паездак на захад. А вось з суседняй Літвой, як і з Польшчай, беларускі бок пакуль не дае дазвол на прыгранічны рух з-за знешнепалітычных супярэчнасцей.



Пастаўскі раён

# Адмучыліся вяскоўцы

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ падчас веснавой пасяўной у Пастаўскім раёне са згоды калгаснікаў гаротнае сельгаспрадпрыемства "Янчукі" страціла сваю самастойнасць і было далучана да аднаго з самых буйных КУСП "Дунілавічы-агра".**

Тут у штаце да апошняга часу засталося крыху больш дваццаці работнікаў, адна ферма з камбайнам і … непад'ёмныя даўгі ў памеры 4,5 млрд. рублёў. Асноўныя палявыя работы занядбанай гаспадаркі, уборку траў і вырашчанага ўраджаю дапамагалі завяршыць усім раёнам. Пасля атрымання зарплаты ўвогуле не было каму рабіць, пакуль гарахлебаробы яе добра не "замочаць". Прапанавалі вяскоўцам стаць фермерскай саянскай гаспадаркай, атрымаць самастойнасць, але тыя не пагадзіліся на гэта. А вось "Дунілавічы-агра", як і "Камайскі-агра" цяпер сталі аднымі з самых вялікіх у Беларусі па плошчы сельгасугоддзяў( з адна канца ў другі адлегласць каля 30 км). Якія б намаганні не прымала дзяржава па адраджэнні вёскі, але вымірае глыбінка няўхільна і ніяк не дасягне эфектыўнага гаспадарання на зямлі. Яшчэ ў пачатку XXI стагоддзя на Пастаўшчыне дзейнічалі 19 калгасаў і 2 саўгасы, буйная райаграпрамтэхніка і 3 аграфірмы, то цяпер засталося толькі 15 гаспадарак, у асноўным так званых адкрытых акцыянерных таварыстваў. З іх толькі трэць маюць нядрэнныя вытворчыя паказчыкі і нейкую перспектыву, астатнія па-ранейшаму "кульгаюць" на абедзве нагі, хоць і атрымалі летась больш 70 млрд. рублёў падтрымкі.

Мёрскі раён

# Ледзь не спаліў сябе

■ Чэслаў Якубовіч

**З надыходам цёплай пары года і заканчэннем ацяпляльнага сезона, здавалася б, меней павінна быць паўсюдна розных вогненных здарэнняў.**

Аднак такое можа назірацца ў цывілізаваных грамадствах, у нас жа людзі гараць і цяпер з-за грэбавання элементарнымі правіламі супрацьпажарнай бяспекі. Па гэтай прычыне трапіў у зводку пажараў і Мёрскі раён, дзе толькі цудам выжыў сельскі пенсіянер з вёскі Дарожкі. Пажылы мужчына ў той дзень добра выпіў, а потым прылёг адпачыць з непатушанай цыгарэтай. На шчасце, гэта здарэнне ўбачыў яго сусед, які працуе вадзіцелем у Язненскім прадпрыемстве меліярацыйных сістэм. Ён выратаваў небараку ад вернай гібелі, калі пачала дыміць яго пасцель. А вось у самім райцэнтры ледзь не спаліў сябе сам жыхар перадпенсійнага ўзросту. Гараджанін таксама ў дзень інцыдэнту "перабраў" з алкагольнымі напоямі, але яшчэ адчуў у сябе сілы заняцца любімым пчалаводствам. Вось толькі пры спробе растапіць пчаліны воск ён яўна не разлічыў свае сілы і каардынацыю дзеянняў. У двары свайго дома гора-пчалавод спрабаваў распаліць касцёр з дапамогай бензіну, але і сам ім абліўся. Калі ён чыркнуў спічкай, то ўвесь быў імгненна ахоплены полымем. З апёкамі твару, рук, спіны і верхніх дыхальных шляхоў пацярпелага змясцілі на лячэнне ў бальніцу. Варта задумацца, чаму за адны толькі выхадныя ў Прыддзвінні адбылося 10 пажараў, агонь зноў забраў жыццё вяскоўца, моцныя апёкі атрымалі яшчэ некалькі чалавек.

# Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 31.05.12 | | | | Пятніца 01.06.12 | | | | Субота 02.06.12 | | | | Нядзеля 03.06.12 | | | | Пнд. 04.06.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +6 | +9 | +13 | +11 | +7 | +10 | +15 | +12 | +8 | +8 | +13 | +8 | +3 | +8 | +12 | +10 | +4 | +10 | +14 |
| Ціск | 744 | 746 | 746 | 744 | 744 | 743 | 741 | 737 | 732 | 733 | 735 | 736 | 739 | 739 | 739 | 739 | 739 | 740 | 739 |
| Вільготнасць | 89 | 64 | 47 | 75 | 88 | 85 | 49 | 84 | 100 | 85 | 52 | 79 | 83 | 60 | 53 | 67 | 90 | 67 | 46 |
| Вецер м/сек | 3 З | 4 С-З | 5 С-З | 1 З | 3 Ю-В | 3 Ю | 5 Ю-З | 3 Ю | 2 Ю-З | 8 З | 7 Ю-З | 7 З | 5 З | 7 Ю-З | 6 Ю-З | 4 З | 4 Ю-З | 5 Ю-З | 6 Ю-З |

# Лічба нумара

## 2536300

**– столькі тысяч гектараў** (99,4 % ад намечанага) , па дадзеных Белстата, засеялі гаспадаркі Беларусі падчас сёлетняй веснавой сяўбы яравых культур, праўда, па стане на 20 мая. Да гэтага часу амаль паўсюдна, за выключэннем Віцебскай і Магілёўскай абласцей, калгасы справіліся з пасевамі зернявых і зернебабовых, яравога рапсу, лёну. Ставілася задача завяршыць яравую сяўбу спачатку да 1 мая, потым да Дня Перамогі, але, як заўсёды, з-за капрызаў надвор'я, а таксама з-за ўласнай безгаспадарчасці айчынныя калгасы з палявымі работамі запазніліся, што можа адбіцца на недаборы ўраджаю восенню.

На палях краіны ў грамадскім сектары напрыканцы мая яшчэ на значных плошчах не былі пасеяны кукуруза і гародніна прыкладна на пятай частцы ўчасткаў, таксама гаспадаркі не ўсюды пасадзілі бульбу, у адрозненне ад заўсёды клапатлівых і старанных гаспадароў прысядзібных надзелаў і дачных палосак. Праўда, сёлета ў нас было вырашана істотна пашырыць паўнацэнную кармавую базу і павялічыць плошчы траў на 26 % да ўзроўню мінулага года. Мінсельгасхарч таксама паставіў задачу значна павялічыць пасевы соі ў 5,6 разы, а сланечніку – нават у 8,4 разы і давесці палеткі пад іх да 25,1 тысячы гектараў.

Як паказвае практыка, айчынным аграрыям зноў не ўдалося ўкласціся ў аптымальныя агратэхнічныя тэрміны веснавой сяўбы. Але аб'ектыўна ўсё да гэтага ішло, бо сапраўды вясна сёлета прыпазнілася, потым пайшлі моцныя дажджы, палеткі былі залітыя вадой і весці работы было немагчыма. Такая вось нябесная канцылярыя, але з іншага боку ў Беларусі пасевы азімых культур з зімоўкі выйшлі ў неблагім стане і пры ўмове належнага догляду, хімпраполкі, падкормкі яны могуць даць неблагі ўраджай.

Іншая справа, што лёс ураджаю не адбіваецца на ўзроўні жыцця насельніцтва, бо для беларусаў асноўныя прадукты харчавання хлеб і малако падаражэлі сёлета ўжо ў другі раз. Спачатку 26 красавіка Міністэрства эканомікі РБ падняло на іх максімальныя адпускныя цэны на 5-10 %. Праз паўмесяца з'явіўся новы аналагічны дакумент і хлебабулачныя вырабы, і малакапрадукты зноў падаражэлі і выраслі такім чынам у цане - адпаведна хлеб – на 15 % і малако – прыкладна на 20 %. Сацыяльна значны прадукт - мяса для айчынных спажыўцоў сёлета падаражэла ўпершыню, але адразу на трэць, амаль на 35 %.

З нядаўняга часу ялавічына ў тушах і паўтушах у магазіны адпускаецца цяпер па 24 тыс. 380 рублёў/кг, свініна ў падобнай фасоўцы па 23, 5 тысячы. Аднак спажывец у крамах, канешне ж, мяса па такіх цэнах не купіць, бо з пачатку года гэтыя мясапрадукты падаражэлі, па дадзеных статыстыкі, на 16-17 %, хоць адпускныя цэны не змяняліся. Вытворцам і гандлю таксама трэба неяк жыць, вось яны і выкручваліся: у малочныя прадукты сталі дабаўляцца розныя вітаміны і дабаўкі, павышалася тлустасць.

Мясныя вырабы з рэгулірыемай сацыяльнай групы мясакамбінаты сталі пастаўляць у крамы не тушамі, а гатовымі кускамі, аператыўна выпускаць новыя каўбасы і іншыя прысмакі, каб абысці інструкцыю аб цэнаўтварэнні. Спажывец добра ведае, што цэны ў нас як раслі, так і прадоўжаць расці, а ён павінен быць гатовым да больш чым 2-разовага павышэння жыллёва-камунальных паслуг. На гэтым фоне ў красавіку Нацбанк Беларусі выплаціў даўгоў на 400 млн. долараў, што адразу прывяло да скарачэння золатавалютных рэзерваў.

Увогуле не толькі на сельскай гаспадарцы краіны, але і на іншых галінах эканомікі цяпер адбіваецца тое, што з 2008 года беларускі знешні доўг павялічыўся больш чым у 2 разы. Каб не фінансавая дапамога з боку суседняй Расіі, нам бы прыйшлося вельмі дрэнна. Беларускіх вытворцаў прама папярэдзілі, што яны павінны быць гатовымі да павышэння цэн на газ, паколькі непазбежны іх рост па ўнутраным рынку Расіі. Зараз мы падцягваемся да ўзроўню ўнутрырасійскіх цэн на харчаванне, а вось па ўзроўні зарплат і пенсій адстаём усё далей не толькі ад расіян, але і ад казахаў. І без рынкавых рэформ і рэальнай стабілізацыі беларускай эканомікі гэту тэндэнцыю не змяніць, нават калі на палях вырасце да восені багаты ўраджай.

## Дзень за днём

**Сярэднюю зарплату 500 USD зноў паабяцалі беларусам да канца года, а таксама бюракратычную прыватызацыю для інвестараў. Стаўку рэфінансавання ў РБ знізілі да 34 % гадавых, а вось адпускныя цэны на хлеб і малако выраслі яшчэ на 10 %, а на мяса – адразу на 35 %, праўда, падаражанне расцягнулі на два этапы ў маі і потым у чэрвені. З новага навучальнага года для беларускіх школьнікаў увядуць абавязковы экзамен па замежнай мове і будзе закрыта яшчэ 114 школ. Мінск канчаткова зацвердзілі месцам правядзення чэмпіянату свету па хакеі ў элітным дывізіёне з 9 па 25 мая 2014 года.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Белы дом пацвердзіў, што прэзідэнт Барак Абама не прыедзе на саміт АТЭС ва Уладзівастоку, раней прэзідэнт РФ У. Пуцін праігнараваў саміт вялікай васьмёркі.

Японія. Краіна перадала Расіі неабходную тэхніку для цэнтра захоўвання спісаных рэактараў атамных падводных лодак і радыёактыўных адходаў у Прыморскім краі.

**Францыя.** Новы прэзідэнт-сацыяліст Франсуа Аланд пачаў правіць сціпла, яго службовы Сітраен спыняецца на сігналы светлафора і прапускае пешаходаў на вуліцах Парыжа.

**Расія.** Вядомы палітолаг Д. Арэшкін спрагназаваў халодна-дзелавыя адносіны новай улады Крамля з Беларуссю з-за яе падыходаў да прыватызацыі і вопыту "абуваць" РФ.

**Венесуэла.** Па сацпытаннях, цяжка хворы на рак і кумір беднякоў папуліст Уга Чавес значна апярэджвае па папулярнасці кандыдата ад апазіцыі, да 53-60 % галасоў на выбарах.

**Грэцыя.** На 17 чэрвеня прызначылі датэрміновыя парламенцкія выбары пасля няўдалых спроб сфарміраваць кааліцыйны ўрад, грэкам пагражае дэфолт, крах і выхад з зоны еўра.

**Польшча.** Краіна адклала ўступленне ў зону еўра, аднак польская эканоміка стала самай паспяховай у ЕС з сукупным ростам ВУП 43 % і экспарту ў 3 разы да 136 мільярдаў еўра ў год.

**Іспанія.** Банкам краіны патрэбна да 270 мільярдаў еўра для пакрыцця сваіх страт, інакш іспанцаў можа накрыць вострa фінансавы крызіс, беспрацоўе вырасла да рэкордных 25 %.

**Францыя.** Новым прэм'ер-міністрам краіны стаў раней умоўна судзімы А. Эйро, усім 34 французскім міністрам урэзалі зарплату на трэць, палову ўрада складаюць жанчыны.

**КНДР.** Улады напоўгаладнай краіны аднавілі праз паўгода будаўніцтва атамнага рэактара на лёгкай вадзе, ён будзе здольны даваць уран для стварэння адной ядзернай ракеты ў год.

**Украіна.** З аднаго з дзяржпрадпрыемстваў у Кіеве скралі на продаж больш 80 танкавых кулямётаў Калашнікава, ваенная пракуратура распачала некалькі крымінальных спраў.

**В'етнам.** Пад раніцу перапоўнены аўтобус у цэнтральнай частцы краіны ўпаў з маста на бераг ракі, на месцы ДТЗ адразу загінулі 34 пасажыры, а 16 – былі ў крытычным стане.

**Расія.** Па рашэнні суда паліцыя разагнала лагер апазіцыі на Чыстых прудах у Маскве, але праціўнікі прэзідэнта Уладзіміра Пуціна не маюць намераў спыняць свае акцыі пратэсту.

**ЗША.** Клан Кеннедзі быццам пракляты, у 52 гады павесілася ў штаце Нью-Йорк жонка пляменніка экс-прэзідэнта Д. Кеннедзі, гэта 7 выпадак заўчаснай смерці ў знакамітай сям'і

**Англія.** Па ўсіх графствах краіны за 70 дзён пройдзе эстафета алімпійскага агню працягласцю 12,8 тысяч кіламетраў. Летнія Алімпійскія гульні пачнуцца ў Лондане 27 ліпеня.

# Заробак бюджэтнікаў вырасце на 5%



■ БелаПАН

**У сувязі з павышэннем з 1 мая тарыфнай стаўкі першага разраду і ўвядзеннем новых карэкціруючых каэфіцыентаў да тарыфных ставак работнікаў бюджэтнай сферы заробак вырасце ў сярэднім на 5% паведамілі БелаПАН у галоўным упраўленні працы і заработнай платы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.**

У адпаведнасці з пастановай Саўміна ад 4 мая 2012 года № 410 «Аб устанаўленні памеру тарыфнай стаўкі першага разраду для аплаты працы работнікаў бюджэтных і іншых арганізацый, якія атрымліваюць субсідыі, работнікі якіх прыраўнаваны па аплаце працы да работнікаў бюджэтных арганізацый» тарыфная стаўка першага разраду 1 мая павышаецца з 200 да 210 тыс. рублёў. У мэтах выканання гэтай пастановы была распрацавана пастанова Мінпрацы № 57, якая прадугледжвае ўвядзенне новых карэкціруючых каэфіцыентаў да тарыфных ставак бюджэтнікаў.

Як паведамілі ў Мінпрацы, новыя карэкціруючыя каэфіцыенты да тарыфных ставак у залежнасці ад разраду будуць складаць ад 3,6 да 0,93.

За кошт змянення карэкціруючых каэфіцыентаў узмацніцца дыферэнцыяцыя ў аплаце працы бюджэтнікаў. Пры гэтым узровень аплаты працы работнікаў, якія нізка аплачваюцца, захаваецца вышэйшым, чым мінімальная зарплата, якая складае 1 млн. рублёў.

Тарыфныя стаўкі разлічваюцца шляхам паслядоўнага памнажэння тарыфнай стаўкі першага разраду на адпаведныя тарыфныя каэфіцыенты Адзінай тарыфнай сеткі работнікаў і ўстаноўленыя карэкціруючыя каэфіцыенты.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Да канца года, паведаміў міністр інфармацыі А. Пралляскоўскі, пяць цэнтральных рэспубліканскіх газет аб'яднаюць у адну, будзе створаны і другі выдавецкі дом "Звязды".

**Салігорск.** Першы віцэ-прэм'ер У. Сямашка заявіў, што продаж "Беларуськалія" быў бы злачынствам для народа, хоць раней А. Лукашэнка быў гатовы да здзелкі за 30-32 мільярда долараў.

**Мінск.** Глава Цэнтрвыбаркама Л. Ярмошына паабяцала правесці тэле і радыёдэбаты на парламенцкіх выбарах у РБ, калі іх пажадаюць не менш, як 2 кандыдаты па выбарчай акрузе.

**Ліда.** На 2-гі этап рэканструкцыі свайго піўзавода фінскі канцэрн Olvi гатовы ўкласці да 2017 года яшчэ 40 мільёнаў еўра, калі ў Беларусі будзе рост рынку і беларускай эканомікі.

**Мінск.** "Белавія" не стала каментаваць факт пакупкі Беларуссю яшчэ аднаго самалёта экстра-класа Боінг-767 былога прэзідэнта Туркменістана для перавозкі VIP-персон.

**Гродна.** На беларуска-польскай граніцы затрымалі гараджанку, якая спрабавала ўвезці ў РБ надзетых на сабе 8 жаночых сарафанаў і штаноў, 12 блузак, трыкатаж.

**Мінск.** Адпраўлены ў адстаўку міністр унутраных спраў РБ А. Куляшоў параіў усім своечасова звяртацца да дактароў, у яго медыкі выявілі рак зусім не на ранняй стадыі.

**Гомель.** Казуля раптам выбегла раніцай на дарогу ля вёскі Каранёўка і стала прычынай ДТЗ, у якім загінулі 2 пасажыры іншамаркі ва ўзросце 23 і 24 гадоў, адзін быў паранены.

**Кобрын.** Супрацоўнікі КДБ і міліцыі прадухілілі вываз жыхаром Ульянаўска на збыт у Расію 21 беларускага каня мясных парод, скупленых у насельніцтва двух абласцей краіны.

**Мазыр.** Пасля двух месяцаў пошукаў міліцыя выявіла нягодніка, 18-гадовага беспрацоўнага з райцэнтра, раней судзімага, які вясной асквярніў праваслаўную царкву.

**Стаўбцы.** Сапраўдны патоп назіраўся ў райцэнтры, дзе днём выпала 34 літра вады на квадратны метр, 62 % майскай нормы дажджу, моцна затапіла Ашмяны, Горкі, Валожын.

**Гродна.** На буйным XXXI Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы (Польшча) заняў 1-е месца духоўны хор мясцовай Гродзенскай праваслаўнай епархіі.

**Мядзель.** Паблізу возера Нарач у прыбярэжных вёсках з'явіліся анамальна вялікія раі камароў, яны моцна гудзелі, але пакуль, на шчасце, не кусалі мясцовых жыхароў.

**Гомель.** Суд пакараў 3 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці з адтэрміноўкай прыгавору на 2 гады 77-гадовую ўрача гарпаліклінікі № 1 за атрыманне хабару за ліпавыя бальнічныя

**Гродна.** Святары касцёла бернардынцаў і арнітолагі выратавалі ад гібелі птушку, абяссіленага сокала, за паратункам ён заляцеў у храм, потым быў выпушчаны на волю.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Ушачы.** На раённым сходзе ГА "Белая Русь" член урада А. Пралляскоўскі заявіў, што ніякай лібералізацыі жыцця ў Беларусі не будзе, бо гэта быццам разбурыць існуючы лад.

**Браслаў.** Кіраўніцтва раёна ўвяло забарону на продаж паўсюдна з 23.00 да 10. 00 алкаголю і піва, а таксама ў дні выдачы зарплат і наступныя 2 дні, акрамя шампанскіх він, каньяку.

**Віцебск.** Па запрашэнні тэлеканала TFN у рамках акцыі "Стоп смяротнаму пакаранню ў РБ" маці і сястра расстралянага У. Кавалёва за тэракт у метро наведалі Польшчу

**Наваполацк.** Аднаму з буйных айчынных бізнесменаў у галіне паставак нафты Мікалаю Вараб'ю і яго фірме "Інтэрсервіс" перадалі завод бялкова-вітамінных канцэнтратаў.

**Глыбокае.** У рамках спецыяльнай праграмы да Дня беларускага пісьменства ў райцэнтры ўстановяць больш 9 км новых платоў на вуліцах Чырвонаармейская, Энгельса і іншых.

**Віцебск.** Не паспелі яшчэ ў адкрытым новым гандлёва-забаўляльным цэнтры "Марка-сіці" размясціцца ўсе арандатары, як на фасадзе будынку пачалі трэскацца яго вокны са шкла.

**Орша.** Міліцыя затрымала 25-гадовага беспрацоўнага п'янага вандала, які невядома дзеля чаго разбіў каля 30 помнікаў на магілках вёскі Заточы і чыгуначнай станцыі Харавброва.

**Наваполацк.** За перамогу ў фінале розыгрышу Кубка Беларусі па футболе кожнаму з ігракоў ФК "Нафтан" выдалі прэміяльныя ў суме 3 тыс. $, клуб згуляе ў Лізе Еўропы.

**Лепель.** У ракетна-зенітную в/ч паблізу райцэнтра прама з СІЗА ў Мінску пасля "Чарнобыльскага шляху" даставілі служыць пад канвоем адлічанага з ВНУ М. Мускага.

**Полацк.** Эксперты за пацвердзілі, што 24-гадовая жанчына, якая зімой забіла 3-месячнае дзіця, пакутуе вострым псіхічным расстройствам, яе надоўга змесцяць у псіхушку.

**Расоны.** Раённы суд пакараў траіх браканьераў за вылаў сеткамі на возеры Няшчэрда 51 кг рыбы пазбаўленнем волі на 2 гады кожнага, яны заплацілі і 6,5 млн. рублёў штрафу.

**Віцебск.** У канцы ліпеня народны артыст Расіі А. Мітта пачне ў горадзе здымкі свайго фільма аб Шагале і Малевічу, аб кантактах і канфліктах гэтых сусветна вядомых мастакоў.

**Орша.** Позна вечарам ля пасёлка Юрцава 38-гадовы грамадзянін Расіі на мікрааўтобусе "Газель" збіў насмерць 20-гадовага веласіпедыста-беларуса з вёскі Корава.

**Віцебск.** У касах горада пачалі прадаваць білеты на канцэрты "Славянскага базару" коштам ад 20 да 750 тыс. рублёў, пройдзе бенефіс Л. Лешчанкі, вечар гумару У. Вінакура.

**Орша.** Гаротны і нікому не патрэбны ФК "Віцебск" стаў гуляць тут свае дамашнія гульні чэмпіянату РБ па футболе, бо плата за стадыён у разы меншая і газон значна лепшы.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Адбыўся пяты бардаўскі фэст ў мястэчку Германавічы



■ Кастусь Шыталь

**У мястэчку Германавічы (Шаркоўшчынскі раён) 26 траўня адбыўся бардаўскі фэст.**

На запрашэнне грамадскай дзяячкі Ады Райчонак у Германавічы прыехалі Андрусь Такінданг, Зміцер Бартосік, Аляксей Жбанаў, Раман Абрамчук, Раман Яраш, Цімох Авілін.

На падворку літаратурна-мастацкага музея імя Міхася Райчонка ўвечары сабраліся чалавек семдзесят. Уся радня Ады Райчонак, сябры цэнтра Драздовіча з Шаркоўшчыны, госці з Лепеля і Верхнядзвінска, журналісты і краязнаўцы з Глыбокага, каталіцкі святар з Лучаю. Некалькі дзяўчат прывандравалі аўтаспынам з Мінска, дабіраліся па пяцьшэсць гадзін.

Жыхары Германавічаў, як звычайна, праігнаравалі бардаўскія спевы. Ці то знайшлі ў суботні вечар больш цікавы для сябе занятак, ці то пабаяліся, што пра іх прысутнасць у "нядобранадзейнай" кампаніі даведаецца начальства. Ада Райчонак пракаментавала вершам абыякавасць мясцовых да незалежнага культурніцкага жыцця.

"Няхай я persona non-grata  
Ў роднай сваёй старане,  
Упэўнена я, што нашчадкі падобраму  
Успомняць мяне.

Я знаю, настане часіна,  
Народ мой успомніць мяне,  
Калі к нам прыедзе "Пагоня"  
На белым прыгожым кані".

Зміцер Бартосік заспяваў першым. Выканаў тры песні расійскіх бардаў-"шасцідзясятнікаў" у перакладзе Рыгора Барадуліна. Сваю частку канцэрта скончыў спевам пра Вільню "Такія месты проста так не пакідаюць".

На сцэну выйшаў Аляксей Жбанаў. Сярод іншых твораў праспяваў "Песню філарэтаў", тэкст якой напісаў у турме ў 1824 годзе Антон Адынец, удзельнік таемнага студэнцкага таварыства.

Выступілі музыкі з вёскі Вялікі Поўсвіж Лепельскага раёна. Васіль Шкіндзер граў на дудзе, Вольга Зарэцкая – на скрыпцы, Уладзімір Крыцкі – на барабане. Яны выканалі некалькі старадаўніх мелодый ды заклікалі станчыць беларускі танец "Вераб'і".

Пасля была своеасаблівая рэкламная паўза. Юлія Бука, беларускамоўная арганізатарка вясковага турызму, праспявала пра сваю сядзібу ў вёсцы Валодзькава Глыбоцкага раёна. Танны адпачынак у звычайных вясковых хатах гаспадыня падае як адмысловую "фішку". "Гэта не штучны адпачынак за вялікім плотам у катэджы з еўрарамонтам. Людзі, якія прыязджаюць, бачаць, што Беларусь – гэта не шыкоўнае жыццё, а складаная і цяжкая праца", – кажа спадарыня Юлія.

Весяліць гледачоў узяўся гурт "Рэха". І ў іх гэта файна атрымалася. Афрабеларус Андрусь Такінданг спяваў і граў на домры, Яўген Шурмей і Кастусь Лісецкі – на гітарах.

Свае вершы прачытаў паэт з Шаркоўшчыны Міледзій Кукуць. Людзям дужа спадабалася яго вострасатырычная паэма пра старшыню калгаса.

Раман Яраш і Цімох Авілін праспявалі а'капэла некалькі народных твораў з Палесся. Потым выканалі свой спеў, прысвечаны галоўнай дзяржаўнай газеце, ды яшчэ некалькі спеваў.

Апошнім выступаў бард Раман Абрамчук. Парадаваў гасцей народнымі і сваімі ўласнымі спевамі. Пасля канцэрту на падворку выканаўцы і гледачы сабраліся ў музеі на вячэру. Вечар скончыўся цёплай сяброўскай размовай.



**Грамадская актывістка Ада Эльеўна Райчонак адкрывае бардаўскі фэст.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Выступае бард Зміцер Бартосік.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Дзве дзяўчыны – родныя сёстры – Алена і Людміла прыехалі ў Германавічы аўтаспынам аж з Мінска.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Міледзій Кукуць чытае верш пра барана, якога паставілі старшынёй калгаса.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Гурт фолькмадэрновай музыкі "Рэха". Андрусь Такінданг (злева) і гітарысты Яўген Шурмей і Кастусь Лісецкі.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Штораз большае геаграфія ўдзельнікаў германавіцкага фэсту. Музыкі з вёскі Вялікі Поўсвіж Лепельскага раёна. Васіль Шкіндзер – дуда, Вольга Зарэцкая – скрыпка, Уладзімір Крыцкі – барабан.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Першая Святая Камунія ў Лучаі

■ Іна Сняжкова  
Фота Альфрэда Мікуса



Бялюткія сукенкі, чыстыя думкі, светлы настрой… 27 мая ў лучайскім касцёле Святога Юды Тадэвуша (Віцебская дыяцэзія, Пастаўскі дэканат) адбылася ўрачыстасць Першай Святой Камуніі. 16 хлопчыкаў і дзяўчат з мясцовай парафіі ўпершыню прынялі ў свае сэрцы Езуса Эўхарыстычнага.



Да гэтага дня дзеткі ішлі два гады. Разам з сястрой Марынай Брылёнак з Варапаева яны вывучалі асновы веры, малітвы, Божыя запаведзі, рыхтаваліся да двух святых сакрамэнтаў — святой споведзі і святой Імшы.

Падчас урачыстасці хваляваліся ўсе: і дзеці, і іх бацькі. Асабліва гэта адчувалася падчас бацькоўскага благаслаўлення. Але найбольш хвалюючым момантам стала прыняцце першай камуніі.

У правядзенні святой Імшы дзеці прымалі самы актыўны ўдзел — чыталі слова Божае, спявалі Псалмы, прыносілі дары да алтара…



Цяпер у дзетак так званы белы тыдзень — яны штодня ў гэтай жа ўрачыстай белай вопратцы ўдзельнічаюць у святой Імшы. Кожны дзень яны атрымліваюць карысныя для іх духоўнага жыцця рэчы: ружанцы, малітоўнікі, памяткі…

— Вялікі дзякуй усім, хто дапамог дзецям дайсці да гэтай урачыстасці, — сказаў ксёндз Мікалай Ліпскі. — У першую чаргу бацькам, таму што менавіта яны вучаць дзяцей маліцца і верыць. Сям'я – гэта Хатні Касцёл, дзе распачынаецца шлях да Бога…

У сваю чаргу бацькі дзяцей шчыра падзякавалі ксяндзу за гэта вялікае свята.



■ Аляксандр Івашчонак, *бакалаўр гісторыі, г.Нэапаль, Італія.*

**Працяг.**

*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621), №10(622); №11 (623), №12 (624), №13(625), №14 (626), №15 (627), №16 (628), №17 (629), №19 (631), 20 (632), №21(633) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

# Мястэчка Глыбокае



**Экскурсавод глыбоцкага Кафэдральнага сабора Юрый Калбасіч паказвае Натальлі Буландо, журналісту Беларускага Радыё (канал «Культура») падзямельлі колішняга кляштара Кармэлітаў.** *Фота Ул. Скрабатуна, 16.04.2010.*

## Глыбоцкія падзямельлі. Міфы, гісторыя і гіпотэзы

**Тэма глыбоцкіх падзямельляў заўсёды вельмі цікавіла ня толькі гісторыкаў, але таксама і жыхароў мястэчка, і турыстаў, і ваенных, і шукальнікаў прыгодаў дый скарбаў. Маючы такое шырокае кола заінтарэсаваных, не дзівота, што ўзьнікла шмат легендаў ды апавяданьняў пра гэтыя старадаўнія і таямнічыя падзямельлі, якія нібыта знаходзяцца пад усім мястэчкам Глыбокім, а сэрца якіх знаходзіцца пад кляштарам Кармэлітаў босых (сёньня царква). Вельмі добра было б аддзяліць міфы пра глыбоцкія падзямельлі ад гістарычнай праўды пра гэтыя ж падзямельлі.**

### Міфы

Найлепш пачаць ад міфаў. Першы з іх распавядае пра тое, што падзямельлі пад касьцёлам Кармэлітаў (сёньня царква) маюць два паверхі, а ўваход на першы (ніжэйшы) паверх згубіўся, альбо быў адмыслова закладзены ці замураваны. Ёсьць яшчэ іншы міф, які гаворыць аб тым, што касьцёл Кармэлітаў (сёньня царква) быў спалучаны падземным ходам з парафіяльным касьцёлам сьв. Тройцы, а акрамя таго быў спалучаны падземным ходам з кляштарам Базыльянаў (сёньня вязьніца) у Беразьвеччы, а ў дадатак з капліцай сьв. Эльяша на Копцеўцы. Можна пачуць яшчэ адну гісторыю, нібыта сама Копцеўка – узгорак, быў зроблены, а дакладней насыпаны з зямлі, якую выкідвалі падчас капаньня катакомбаў (падзямельляў). Гэтыя гісторыімаюцьсваіх сьведкаў і ўдзельнікаў, а нават сучасных сьпецыялістаў і аматараў, якія з новымі прыладамі знаходзяць падземныя пустоты, нібыта тым самым падцьвярджаючы нашыя міфы. Варта памятаць, што часамі менавіта міфы дапамагаюць гісторыі разьвівацца.

**Мая гіпотэза – пад падзямельлямі манахаў знаходзяцца падзямельлі замка Корсакаў, якія былі вельмі глыбокімі – замкавыя лёхі (lochy) і можа быць таму, манахі палічылі іх за не патрэбныя і частку замуравалі, будуючы на іх мейсцы свае падзямельлі.**

### Гісторыя. Касьцёл і кляшар Кармэлітаў

Варта зьвярнуцца да гісторыі, што кажуць альбо аб чым маўчаць гістарычныя крыніцы. Перш варта разгледзець падзямельлі касьцёла і кляштара Кармэлітаў босых (сёньня царква). На пачатку трэба зазначыць, што падзямельлі касьцёла Ўнебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны Марыі (сёньня царква Раства Багародзіцы) і падзямельлі кляштара (сёньня захавалася толькі адно крыло) – гэта два розныя падзямельлі. Такім чынам, падзямельлі кляштарнага комплексу Кармэлітаў босых у Глыбокім складаюцца з дзьвюх частак: першая – падзямельлі пад храмам, і другая – падзямельлі пад кляштарам. Калі сёньня мы можам пабачыць першыя падзямельлі, то ўжо другія пабачыць немагчыма, бо былі знішчаныя, а дакладней засыпаныя, калі разбурылі два крылы (а дакладней тры) кляштара. Сёньня захавалася толькі адно крыло кляштара (у фатальным стане), пад якім таксама захавалася і адно крыло падзямельля (на жаль, яго ня можна пабачыць з-за тэхнічнага стану, бо ўсё крыло кляштара зачыненае для турыстаў, так як знаходзіцца ў аварыйным стане).

Вяртаючыся да тых, першых, падзямельляў – катакомбаў пад храмам, што мы ведаем пра іх? Згодна з гістарычнымі крыніцамі, касьцёл і кляштар Кармэлітаў босых (не блытаць з парафіяльным касьцёлам сьв. Тройцы) пачаў будаваць у 1641 г. сам фундатар Язэп Корсак. Як вядома з гістарычных крыніц, падзямельле было пад усім храмам і кляштарам. Фундатар быў пахаваны ў сваёй крыпце пад алтарнай часткай касьцёла, побач з яго крыптай, дакладна пад алтаром, знаходзіўся алтар за памерлых. Што тычыцца іншай часткі, каля лесьвіцы, то гэтая частка была аддзеленая ад рэшты падзямельля кратай. Называлася яна касьцярняй і мела 6 крыптаў, ведаем, што 1 належала да сям'і Корсакаў, адна да сям'і Галімскіх, адна да сям'і Тышкевічаў. Да каго належалі іншыя 3 не вядома, крыніцы маўчаць. Калі да часткі, якая названая касьцярняй, пытаньняў няма, то ёсьць пытаньне: што там было? Аднак і ў гэтым выпадку крыніцы маўчаць. Што тычыцца падзямельляў пад самым кляштарам, то там быў свой асобны ўваход. Як дакладна выглядалі падзямельлі пад кляштарам – не вядома. Вядома, што былі яны прыстасаваныя для трыманьня рэчаў, харчовых прадуктаў і гд. Вядома, што ў часцы, якая захавалася, пасьля 1945 г. трымалі малочныя прадукты (адпаведных прыстасаваньні там можна пабачыць яшчэ і сёньня. Падсумоўваючы, трэба дадаць, што будаўніцтва падзямельляў кляштара з касьцёлам было скончана дзесьці каля 1654 г. Што тычыцца самаго кляштара, то яго пабудова была скончана ў часе прыярату айца Пёрта ад Маці Божай, які быў прыёрам у Глыбокім ад 1661 г. да 1664 г. З гістарычнага пункту гледжаньня гэта ўсё, што можам распавесьці пра падзямельлі пад касьцёлам і кляштарам Кармэлітаў на падставе крыніц.

### Касьцёл сьв. Тройцы

Ідучы далей, разгледзім падзямельлі пад парафіяльным касьцёла сьв. Тройцы. Як вядома з гістарычных крыніц, будаўніцтва касьцёла было скончана пад канец 1642 г. Касьцёл быў пабудаваны драўляны і ня меў катакомбаў, аб чым вядома з візітацыйнага акту з 1654 г. У тым самым годзе касьцёл быў спалены маскавітамі, пасьля чаго быў адбудаваны, але ўзноў драўляны і ўзноў без катакомбаў. Аднак падзямельлі пад касьцёлам сьв. Тройцы зьявіліся ў другой палове XVIII ст. (прыблізна 1770-80 гг.). Падзямельлі былі пад усім касьцёлам і мелі 12 крыптаў. У 1902-08 гг. адбылася разбудова касьцёла, аднак крыпты засталіся бяз зьменаў (што можна пабачыць і сёньня, бо менавіта па памеру падзямельля можна даведацца аб велічыне касьцёла перад разбудовай). На гэтым заканчваюцца нашыя веды на тэму падзямельляў пад касьцёлам на падставе гістарычных крыніцаў.

### Касьцёл і кляштар Базыльянаў

Гістарычныя крыніцы кажуць, што будаўніцтва касьцёла сьвятых Пятра і Паўла і кляштара Базыльянаў распачалося ў 1638 г. Гэтыя два будынкі ая да перабудовы ў 1756-1767 гг. былі драўляныя. Менавіта тады з'явіліся мураваныя падзямельлі пад касьцёлам і кляштарам Базыльянаў, якія існуюць па сёньняшні дзень (частка выкарыстоўваецца вязьніцай, а частка замураваная).

### Капліца сьв. Эльяша на Копцеўцы

Як вядома з гістарычных крыніцаў, капліца сьв. Эльяша была пабудаваная Кармэлітамі на ўзорку пры каталіцкіх парафіяльных могілках, а дакладней, на ўбоччу могілак. Падзямельлі капліцы былі пабудаваныя ў 1804 г. і былі невялічкія, памерам 1/6 велічыні самой капліцы. І перадусім былі пабудаваныя для пахаваньня памерлых манахаў Кармэлітаў.

### Падсумаваньне

Як бачна, гістарычныя крыніцы даюць вельмі сьціплую інфармацыю наконт глыбоцкіх падзямельляў. Але нават гэта невялічкая колькасьць ведаў дазваляе разьвеіць пэўныя міфы, але варта таксама памятаць, што ў кожнай байцы ёсьць кавалачак праўды. І варта памятаць, што гісторыя вельмі падобная да матэматыкі, калі мае адзін невядомы і два вядомыя, то хопіць скласьці альбо адняць вядомыя, каб знайсьці невядомы.




**У кнізе Міхася Ткачова «Замкі і людзі»[1] змешчана схема лакалізацыі замка Корсакаў. Лічбай 1 адзначаны замак на мейсцы колішняга кляштара Кармэлітаў, лічбай 2 – ставы на мейсцы сёньняшняга кансэрвавага завода.**

І так пачнем ад касьцёла і кляштара Кармэлітаў. Хіба найбольш інтрыгуючай гісторыяй зьяўляецца міф пра двухпавярховыя катакомбы. З гістарычнага пункту гледжаньня гэта міф. Гістарычныя крыніцы нам ясна кажуць: Кармэліты ня мелі двайных падзямельляў, мелі два падзямельлі: адно пад сваім касьцёлам (не блытаць з касьцёлам сьв. Тройцы), а другое пад сваім кляштарам. Здавалася б, усё зразумела. Аднак маем іншы вядомы факт, а менавіта той, што сучасная тэхніка выказвае, што пад падзямельлем штосьці ёсьць. Ці магчыма гэта з гістарычнага пункту гледжаньня? Што тычыцца кармэліцкага перыяду і пазьнейшага часу, то адназначна не!

Вяртаючыся да гісторыі спалучэньня падзямельляў паміж катакомбамі Кармэлітаў і Копцеўкай – гэта таксама міф, бо катакомбы пад кляштарам былі будаваныя ў 1641-54 гг., а Копцеўка 1804 г. – адказ зразумелы. Тое самае тычыцца сувязі з касьцёлам сьв. Тройцы, пад якім катакомбы будаваліся ў 1770-80 гг., тое самае з базыльянамі 1756-67 гг. Лагічна гледзячы, было не магчыма пабудаваць супольнае падзямелье з такой розьніцай у гадах. Акрамя таго, аб'ектыўна гледзячы, гэтая сувязь была бяз сэнсу. Чаму? У тыя часы стасункі паміж манахамі Кармэлітамі і Базыльянамі былі вельмі варожыя, так, менавіта варожыя, амаль кожны год цягнуліся судовыя працэсы паміж гэтымі кляштарамі, тое самае трэба сказаць і пра стасункі Кармэлітаў з глыбоцкім пробашчам. Таму будаваць сумесны падземны ход было б найвялікшай бязглуздзіцай.

Як бачна, легенда пра глыбоцкі андэграўнд у сьвятле гістарычных крыніц знікае. Але ці цалкам? Хіба не.

*Заканчэнне на стар.11*

[1] *М.А. Ткачоў, «Замкі і людзі». Мінск. «Навука і тэхніка». 1991 г., стар. 154-156.*

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Хутка знімуцца абмежаванні і забароны на прамысловае і аматарскае рыбалоўства

**Хутка наступіць лета, знімуцца абмежаванні і забароны на прамысловае і аматарскае рыбалоўства. З 31 траўня дазволена лоўля рыбы з лодак, а таксама перасоўванне на маламерных суднах па вадзе.**

Паводле пункта 130 Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў Рэспубліцы Беларусь у рыбалоўных угоддзях дазваляецца аматарскае рыбалоўства ўсіх відаў рыбы, за выключэннем вугра.

У выпадку вылоўлівання рыбы, ракаў ці міногаў, якія адносяцца да відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, а таксама вугра, такая рыба павінна быць выпушчана ў рыбалоўныя ўгоддзі ў жывым выглядзе. За незаконнае вылоўліванне рыб, уключаных у Чырвоную кнігу, прадугледжана адміністрацыйная адказнасць (штраф да 50 базавых велічынь) і крымінальная адказнасць (да 6 гадоў пазбаўлення волі).

Пры аматарскім рыбалоўстве дазваляецца вылоўліванне рыбы, якая не дасягнула прамысловай меры, па норме не больш за 20 адсоткаў ад колькасці вылаўленай рыбы кожнага з відаў, для якога ўсталявана прамысловая мера.

Так, прамысловая мера на шчупака складае 35см., (вымяраецца ад галавы да пачатку хваста)

- Лін – 22 см.
- Язь – 25 см.
- Жэрах – 34 см.
- Судак – 40 см.
- Сом – 70 см.
- Галавень – 25 см.
- Мянтуз – 36 см.

Рыбаловам дазваляецца выкарыстоўваць для аматарскага рыбалоўства нахлыстовыя, паплавочныя і дновыя вуды ўсіх сістэм, спінінгі, кружкі, дарожкі, жарліцы, стрэльбы і пісталеты для падводнага палявання, падхватнікі і пад'ёмныя сеткі для лоўлі рыбы, якая выкарыстоўваецца у якасці прынады (дыяметр падхватніка 0,5 метра з ячэяй меней 10 міліметраў ці пад'ёмная сетка памерам 1 х 1 метр і ячэяй меней 1 мл.)

На аднаго рыбалова ў суткі дапушчаецца вылоўліванне не больш за 5 кг. рыбы, ці адной рыбы, вага якой перавышае 5 кг.

На лоўлю асобных відаў рыбы ўсталёўваюцца забароны :

- Сом звычайны: з 1 чэрвеня па 1 ліпеня.
- Рак вузкапалы з 15 кастрычніка па 15 ліпеня.

Асноўныя забароны пры аматарскім рыбалоўстве :

- стаянка механічных транспартных сродкаў у межах прыбярэжных палос вадаёмаў да 30 метраў ад берагавой лініі.
- мыйка транспартных і іншых тэхнічных сродкаў у межах вадаахоўных зон вадаёмаў.
- размяшчэнне ў межах вадаахоўных зон летніх лагераў для сельскагаспадарчых жывёл, сховішчаў для складавання ўгнаенняў і сродкаў абароны раслін.
- падводнае паляванне рыбаловам, якія не маюць пры сабе пасведчання падводнага паляўнічага і членскага квітка БТПР, з выкарыстаннем акваланга ў і іншых аўтаномных дыхальных прыбораў.
- знаходжанне ў рыбалоўных угоддзях або на прылеглай да іх тэрыторыі на адлегласці да 1 км. ад берагавой лініі рыболоўных угоддзяў з забароненымі прыладамі рыбалоўства ці рыбай, лоўля якой у дадзеным раёне і ў дадзены час забаронена або вага якой перавышае нормы вылоўлівання, без дакументаў, якія пацвярджаюць законнасць валодання рыбай.

З наступам цяпла рэзка павялічылася колькасць парушэнняў правіл рыбалоўства і ў першую чаргу мыйка аўтамашын каля вадаёмаў. Так, 25 траўня 2012 года працаўнікамі міжрайінспекцыі паблізу ст. Круляўшчызна на вадаёме Рамжына затрыманы мясцовы жыхар, які ажыццяўляў мыйку аўтамашыны Мазда-6. Парушальнік прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

26 траўня 2012 года на возеры Акунёўскае Глыбоцкага раёна жыхар г.п. Падсвілле, грамадзянін Н. праводзіў мыйку свайго аўтамабіля, штраф за парушэнне ў некалькі разоў перавысіць аплату за памыўку машыны на аўтамыйцы.

27 траўня 2012 года жыхар г. Глыбокае грамадзянін С. мыў сваю аўтамашыну на возеры Бяглец, дзе абсталявана месца адпачынку грамадзян. Пры затрыманні працаўнікамі інспекцыі і складанні адміністрацыйнага пратаколу довады парушальніка – «я ж мыю машыну без шампуня». На возеры Бяглец адпачывае ўвесь горад, дзеці, састарэлыя грамадзяне, але ўсё адно яшчэ ёсць грамадзяне, якім закон не пісаны. Парушальнік панёс заслужанае пакаранне.

25 траўня працаўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі затрымалі двух жыхароў Глыбоцкага раёна, якія праводзілі лоўлю рыбы на вадасховішчы Іванаўшчына пры дапамозе бродніка, здабылі 31 асобіну карася залатога і 22 асобіны ратана-галавешкі, урон, прычынены прыродзе, склаў амаль 20 млн. рублёў. Матэрыялы накіраваны ў праваахоўныя органы для дачы прававой адзнакі дзеянням парушальнікаў.

Пра ўсе факты браканьерства просім Вас паведамляць у Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету па тэлефонах: 8-02156- 2-86-70 ці 2-80-30, мабільныя 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

**І.У. Федаровіч,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

**ДАІ інфармуе :**

# З 24 траўня па 8 чэрвеня на тэрыторыі нашай Рэспублікі праводзіцца адмысловае комплекснае мерапрыемства «Увага – дзеці!», накіраванае на папярэджанне дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму

**Асаблівую трывогу і боль выклікае стан дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам дзяцей і падлеткаў. У Рэспубліцы ўсяго за чатыры месяцы 2012 года адбылося 112 ДТЗ, у якіх 5 дзяцей загінулі, 114 атрымалі траўмы і калецтвы. Па Віцебскай вобласці адбылося 16 дарожных аварый з удзелам дзяцей.**

Таму, у мэтах прафілактыкі дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму, а таксама ў сувязі з канцом навучальнага года і пачаткам летніх вакацый праводзяцца дадзенае мерапрыемства.

Ва ўстановах адукацыі будуць арганізаваны выступы супрацоўнікаў ДАІ, гутаркі, лекцыі, экскурсіі ў музей ДАІ, у гэтыя дні будуць узмоцнены рэйды на дарогах інспектарамі батальёна дарожна-патрульнай службы па прадухіленні парушэнняў Правіл дарожнага руху дзецьмі, а таксама кіроўцамі транспартных сродкаў у месцах, дзе размешчаны ўстановы адукацыі.

**Паважаныя дарослыя!** Прывучайце сваіх дзяцей да дарожнай дысцыпліны, выхоўвайце ў іх пачуццё асцярожнасці пры пераходзе праезнай часткі, штодня нагадвайце ім пра выкананне правіл дарожнага руху, самі служыце прыкладам сваім дзецям!

**Паважаныя вадзіцелі!** Вы абавязаны быць максімальна асцярожнымі і ўважлівымі пры праездзе міма дзіцячых пляцовак, прыпынкаў грамадскага транспарта, дзіцячых устаноў адукацыі. У адпаведнасці з пунктам 166 і 166.9 Правіл дарожнага руху « У светлы час сутак для пазначэння рухальнага транспартнага сродку павінна быць уключаным блізкае святло фар ці дзённыя хадавыя агні ў перыяд правядзення міністэрствам унутраных спраў рэспубліканскіх адмысловых комплексных мерапрыемстваў», з 24 траўня па 8 чэрвеня ўсе вадзіцелі ў светлы час сутак павінны ездзіць з уключаным блізкім святлом фар.

**І. Л. Асіпенка,**
*гл. інжынер Глыбоцкага РЭС.*

# ПАРУШАЦЬ ПРАВІЛЫ АХОВЫ ЭЛЕКТРЫЧНЫХ СЕТАК НЕБЯСПЕЧНА!

*Увазе ўсіх грамадзян, кіраўнікоў прадпрыемстваў, СПК і арганізацый Глыбоцкага раёна*

У адпаведнасці з правіламі аховы электрычных сетак напругай да і звыш 1000В, а таксама ў пазбяганне няшчасных выпадкаў з насельніцтвам, асабліва з дзецьмі, а таксама гібелі жывёл ад паражэння электрычным токам

**ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

- праводзіць якія-небудзь дзеянні, якія могуць парушыць звычайную работу электрычных сетак, у прыватнасці:
- паднімацца на апоры паветраных ліній электраперадач (ВЛ) і дакранацца правадоў, выраблядь якія-небудзь падлучэнні ці пераключэнні;
- накідваць на правады староння предметы (дрот, вяроўкі і інш.), уладкоўваць усякага роду звалкі;
- расстрэльваць з агнястрэльнай зброі ізалятары на апорах ВЛ, разводзіць агонь у ахоўных зонах ВЛ;
- паднімацца на трансфарматарныя пункты (ТП), адкрываць сілавыя шафы, рубільнікі, скрыні і датыкацца да тока вядучым часткам, змешчаным пад напругай.

**ПАМЯТАЙЦЕ,** што ўсталяваны ахоўныя зоны ўздоўж паветраных ліній электраперадач на адлегласці ад крайніх правадоў:

да 1000 вольт улучна – 2 м,

да 6-10 кВ – 10 м,

да 35 кВ – 15 м,

да 110кВ – 20м,

да 330 кВ – 30 м.

У межах ахоўных зон **ЗАБАРАНЯЕЦЦА** будаваць жылыя дамы і дапаможныя памяшканні, арганізоўваць пляцоўкі для гульні дзяцей, разбіваць дачныя ўчасткі, высаджваць дрэвы пад правадамі, усталёўваць стагі сена і будаваць сіласныя ямы, распрацоўваць кар'еры і г. д. без узгаднення з уладальнікамі ЛЭП.

**ЗАБАРАНЯЕЦЦА** весці земляныя работы паблізу кабельных і паветраных ліній, а таксама пад паветранымі лініямі, уладкоўваць праезды пад правадамі ўсіх відаў тэхнічных сродкаў вышынёй больш 3 метраў.

**НАГАДВАЕМ!** Усякага роду дзеянні, якія могуць выклікаць пашкоджанне электрычных сетак, павінны ўзгадняцца з Глыбоцкім РЭС не пазней, чым за 3 дні да пачатку выканання работ.

**ПАМЯТАЙЦЕ!** Пры выяўленні абарванага і ляжалага на зямлі провада, а таксама правадоў ліній электраперадач, якія правісаюць над зямлёй, забараняецца набліжацца да іх на адлегласці бліжэй 8 метраў.

Аб усіх выяўленых парушэннях у электрычных сетках пераканаўча просім паведамляць дыспетчару Глыбоцкага РЭС па тэлефоне 2-62-41 (кругласутачна).

**НАГАДВАЕМ!** Кіраўнікі ўсіх прадпрыемстваў, СПК і арганізацый, а таксама ўсе грамадзяне, якія пражываюць у гарадской і сельскай мясцовасці, абавязаны строга выконваць правілы аховы ліній электраперадач і не дапушчаць іх парушэння. Асобы, якія нанеслі пашкоджанні ліням электраперадач і іншаму электраабсталяванню, прыцягваюцца да адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці па існуючым заканадаўстве РБ.

## МНС інфармуе
**на 29.05.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 548;
Гібель людзей – 75, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 3495,8 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 25;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 187 550 000 руб.

# Больш за 65% курсантаў мінскіх аўташкол не ў стане здаць экзамены з першай спробы

Упраўленне Дзяржаўтаінспекцыі ГУУС Мінгарвыканкама абнародавала звесткі аб стане падрыхтоўкі вадзіцельскіх кадраў у навучальных арганізацыях, зарэгістраваных у гарадскім упраўленні ДАІ, за студзень—красавік 2012 года. З іх вынікае, што агульнагарадскі паказчык нездавальняючай здачы экзаменаў з першай спробы складае 65,3%.

Усяго ў рэестры УДАІ ГУУС зарэгістравана 59 навучальных арганізацый па падрыхтоўцы вадзіцеляў. Найгоршыя паказчыкі мае ТАА «Пазаведамасная ахова». Тут агульны працэнт нездавальняючай здачы тэарэтычнага і практычнага экзаменаў з першай спробы склаў 92,6%. Ненашмат лепш сітуацыя ў ТАА «Галоўная дарога» — 90,4% і ТАА «Аўта-рытэт» — 88,1%. Колькасць не здаўшых з першай спробы тэарэтычны экзамен у гэтых навучальных арганізацыях складае 23,7%, 19,2% і 47,7% адпаведна ад агульнай колькасці навучэнцаў, не здалі з першай спробы ваджэнне — 90,3%, 88,1% і 77,2%.

Больш паспяхова ў Мінску экзамены здавалі курсанты навучальнай арганізацыі ў ліцэі № 14. Тут агульны працэнт нездавальняючай здачы склаў 39,7%. Тэарэтычны экзамен па Правілах дарожнага руху з першай спробы не вытрымалі 24,1% навучэнцаў, ваджэнне — 20,5%.

У тройцы лепшых па выніках чатырох месяцаў 2012 года таксама ЗП «Аўтацэнтр Атлант-М» (51,1%, 5,8% і 48,1%) і УА ДУЦ «БЕЛДАРБУД» (52,1%, 16,6% і 42,6%).

Усяго ў навучальных арганізацыях, зарэгістраваных у гарадскім упраўленні ДАІ, у студзені—красавіку гэтага года вучыліся і спрабавалі здаць экзамены амаль 10 тысяч курсантаў.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

